Цана асобнага нумару 10 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 1 (52). | Вільня, Субота 1 Студня 1927 г. | Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадной палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Усяму Беларускаму Сялянству, Чытачом і спагаднікам „Сялянскае Нівы“ шлем нашыя найшчырэйшыя і найлепшыя Новагоднія пажаданьні!

## З НОВЫМ ГОДАМ...

Мінуў стары год, прышоў новы. Кожны новы год ёсьць вялікім сьвятам. Багатыя сьвяткуюць першы дзень Навага Году затым, што ім добра жыць на сьвеце, бедныя—затым, што маюць надзею на палепшаньне сваей гаротнай долі ў новым годзе. Мы, Беларусы, пакрыўджаны доляй; беднасьць, убогасьць і галіта прасьлядуюць нас, кожнае сьвята яшчэ больш прыпамінае нам аб нашай бядзе, бо мы бачым, як сярод нас і коштам нашай крыві і поту паны гуляюць, спраўляюць сабе багатае сьвята, а мы сядзім бяз хлеба, у холадзе і голадзе. Чаму гэта так, чаму такая несправядлівасьць на сьвеце? Ці можа толькі адны мы, Беларусы, так пакрыўджаны?

У пануючым цяпер на ўсім сьвеце грамадзкім ладзе маем несправядлівае разьмеркаваньне (падзел) грамадзкага даходу. Кожны грамадзянін з усяго грамадзкага даходу не атрымлівае частку роўную ўложанай ім працы пры вытворстве грамадзкага дабра, а толькі такую частку, якую яму прыдзеляць іншыя. Рашаючую ролю пры разьмеркаваньні грамадзкага даходу адыгрывае не людзкая праца, а капітал і ўлада, якая на ўслугах капіталу. Багатыры, што маюць вялікія грашовыя капіталы, што маюць фабрыкі, і што маюць маёнткі (вялікія абшары зямлі), самі бяз учасьця ўсіх грамадзян—усіх працуючых, дзеляць грамадзкі даход. Дзеляць гэты даход несправядліва, бо ўсё забіраюць сабе, і толькі падонкі аддаюць працоўнаму народу ўсіх краёў. Там дзе народ мае сваю незалежнасьць, хоць улада і знаходзіцца на ўслугах капіталістычнага ладу, аднак сяляне і работнікі і наагул усе працоўныя масы пачынаюць здабываць сабе голас пры разьмеркаваньні грамадзкага даходу. Гэта разьмеркаваньне хаця і адбываецца несправядліва, аднак ня ў такой меры, як там, дзе народ не мае свае незалежнасьці. Прыкладам, амэрыканскі селянін і работнік не атрымліваюць з свае працы ўсю вартасьць вытвóранага імі дабра, бо часьць гэтага дабра ідзець у кішэні капіталістых, але атрымліваныя імі даходы шмат перавышаюць даходы сялян і работнікаў на Беларусі.

Абмінаючы іншыя прычыны гэтай няроўнасьці, найважнейшае гэта тое, што мы не маем свайго незалежнага істнаваньня, што мы не зьяўляемся гаспадарамі на сваей зямлі.

Чужыя капіталы, чужыя па нацыянальнасьці ўласьнікі маёнткаў і чужая нам улада яшчэ больш эксплёатуюць наш запрацаваны народ, бо апрача пагоні за вялікімі прыбыткамі, буржуазія і капіталістыя, пры разьмеркаваньні грамадзкага даходу, хочуць адабраць Беларусам магчымасьць дайсьці да свае ўлады. Яны добра ведаюць, што беларускай буржуазыі, беларускіх капіталістых няма зусім, дык кожная беларуская ўлада ня будзе бараніць інтэрэсаў багатых людзёў, а будзе на старане ўсяго працоўнага беларускага народу. Такой улады дагэтуль мы яшчэ ня мелі і затым праз многа вякоў наш народ быў і ёсьць у гаспадарчай і палітычнай няволі, якая эксплёатавала нашую працу. Увесь грамадзкі даход, даход запрацаваны нашымі рукамі ня быў нашым нацыянальным даходам, але даходам нашых ворагаў.

З такім станам рэчаў, нам прыходзіцца змагацца. Змаганьні кожнага з нас асобна не прынясуць нам перамогі. Трэба вясьці арганізаваную пляновую працу, якая мае на мэце палітычнае, гаспадарчае і нацыянальнае вызваленьне беларускага народу. Гэную працу павінны вясьці ня толькі павадыры нашага народу, павадыры нашай партыі, але ўсё нашае сярмяжнае сялянства. Беларускае сялянства павінна суцэльнай сваей масай ісьці ў Сялянскі Саюз і там пад бел-чырвона-белым нацыянальным сьцягам будаваць фундамант пад сваю лепшую будучыну. Трэба добра помніць што ані з усходу, ані з заходу ніхто ня прыдзе вызваляць нас; паляпшэньне нашай долі можам апіраць толькі на сваіх уласных сілах. Гэтыя сілы ўзмацоўваюцца і растуць разам з узростам нашай арганізованнасьці.

Беларускі Сялянскі Саюз, спатыкаючы цяпер ужо другі Новы Год, шлець усім сялянам, чытачом „Сялянскае Нівы“ і спагаднікам яе свае шчырыя і найлепшыя пажаданьні! Каб гэты новы год быў новай здабычай Беларусаў на ніве нашага поўнага вызваленьня; каб даход усіх працуючых на Беларусі быў беларускім нацыянальным даходам, і каб сяляне, работнікі і ўсе працуючыя мелі справядлівы ўдзел пры разьмеркаваньні яго, удзел роўны ўсей вартасьці ўложанай працы. Ідэал справядлівага падзелу грамадзкага даходу ёсьць ідэалам Беларускага Сялянскага Саюзу! За зьдзейсьненьне ўсіх ідэалаў Саюзу, ідэалаў беларускага сялянства, за зямлю і волю няхай у гэтым новым годзе кожны селянін пачнець арганізавана змагацца! Дык з Новым Годам, з новы шчасьцем да працы за поўнае нашае вызваленьне!

*А. Саюзьнік.*

## О, Новы Годзе!...

Ўжо зьнік аджыўшы стары год,
Праліўшы ў змучаны народ,
У народ пакрыўджаны бяз меры
Прамень агністы цьвердай веры.

Бо прыдзе момант, час магутны,
З бяды паўстане дух пакутны
І страшна, грозна, нібы леў,
Стрымаць ня зможа ён свой гнеў.

Дык ўдар грымотам пяруністым,
Разьбі цемру чорнай хмары
І на ўбогія ніўкі і папары
Зазьзяй сонца днём агністым!

Дык зьяві-ж ты моц о, Новы Годзе!
Дыхні свабодаю ў народзе,
Каб замест сьлёз на родным полі
Ліліся песьні поўнай волі!

Ў сьвятой вялікай працы нам,
Ты новы годзе, памажы —
Зямелькі беднае сынам
Канець мучэньня палажы!!!

*Міх. Касьцевіч.*

Няхай жыве
Вольная Беларусь!

## Праца Інстытуту.

Мінулы год можа быць адзначаны ў гісторыі беларускага руху, вельмі вялікімі пасьпехамі ў галіне пашырэньня беларускай сьведамасьці сярод шырокіх гушчаў нашага народу. У гэтым годзе таксама была заложана адна з найпаважнейшых беларускіх арганізацыяў у Заходняй Беларусі — гэта Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, які вельмі шмат прычыніўся да пляновай арганізацыі працы на вёсцы. Да гэтага году істнуючыя беларускія культурна-прасьветныя ўстановы ня мелі кантакту (лучнасьці) з нашай вёскай, і затым праца іх абмяжоўвалася невялічкім колам беларускай інтэлігенцыі, што знаходзілася ў цэнтрах беларускага руху ў: Вільні, Наваградку, Радашковічах і інш. местах.

Інстытут першы сярод беларускіх установ пачаў уцягваць у працу інтэлігенцыю, што знаходзіцца на месцах і якая апынулася ў вельмі цяжкіх матэр'яльных абставінах. Там дзе сярод такой інтэлігенцыі прабудзілася нацыянальнае пачуцьцё, закладаліся гурткі Інстытуту, якія сваей працай захоплівалі ўсё, што ёсьць лепшае на вёсцы. З другога боку, менш сьвядомыя элемэнты, безработная інтэлігенцыя, сярод якой беларуская сьведамасьць яшчэ не дасьпела, скарэй хапаліся за палітычную працу, творачы тыя ці іншыя „гурткі“ палітычных партыяў. Інстытут, як культурна-гаспадарчая установа, у сваей працы мог паслугавацца толькі больш сьведамымі грамадзянамі, людзьмі якія маюць даныя для культурнай працы, бо ёсьць ведама, культурную беларускую працу могуць вясьці толькі адпаведна ўзгадаваныя культурныя працаўнікі. Народ у сваей масе больш кі-

# На Новы Год.

Досыць! ужо годзі злыбяду пеці!
Проч! гэны сумны напеў,
Час нам у песьнях пагрозай грымець,
Ад страху, каб кат наш дрыжэў!

Растуць ў народзе магутныя сілы,
Ўсходзіць свабоды пасеў,
Волат—народ ўстае ўжо з магілы,
Араб сваю моц зразумеў.

Ўжо думкі аб волі ня здушыць і голад
Ня зломіць нас барацьба,
Родная саха, сякера і молат
Саб'юць з нас путы раба!

*Хмара.*

# КЛІЧ.

Нас шмат, нас шмат! ўздымаймася-ж, брацьця,
Ня трэба ліць сьлёзаў, ня трэба маліць,
Дык дружна і разам уздымайцеся-ж, браце,
Даволі нам ласкі прасіць!

Ужо бач! зара занялася, свабоды.
Прасьніся, заспаўшыся брат
На бел-чырвоны сьцяг свабоды
Ўсходзіць сонца з-за крат!

За зямлю, асьвету, за шчасьце народу,
За краю роднага волю
Ўсе да нас, хто мужыцкага роду
Будаваць сабе лепшую долю!

*Хмара.*

# Поэтыцкае творства Фр. Грышкевіча.

* * *

Можа гэта толькі згадка,
Мо' ня так ёсьць, як здаецца:
Пры ламаню мо' аплатка
Нам спаткацца яшчэ прыдзецца,
Хоць ня веру ў гэта, братка,
Што час прошлы нам вярнецца...
Бо страшэнна сэрца б'ецца...

Можа гляне хто з украдка
І спытае, дзе мне дзецца;
Я скажу... ў мяне ёсьць хатка,
Можаш Ёй ты прыглядзецца:
Дом мой — Край, Айчызна — матка,
Вось і мейсца — дзе падзецца...
Аднак, сэрца страшна б'ецца...

Сэрца, стань! ня бійся... годзе!
Бо жыцьця праява млее:
Сэрца, будзь з жыцьцём у згодзе,
Бо душа ашатанее
І шалёна ў дзікай тродзе
Паўстрымацца не здалее...
Сэрца сталь... бо сіла млее.

* * *

Туды, туды... ў таёмну даль
Нясі мяне павеў ласкавы,
Нясі і кінь у сонну хваль,
У сонну хваль... далёка ў даль,
Дзе вечна зеленеюць травы.

Нясі туды, дзе любай крок
Па цудных кветачках ступае
Наперад, зад і з боку ў бок
Жартоўне і міленька... знарок
Там ручкай кветачкі зрывае.

Я буду кветкай зелянец
І буйным цьветам распушчуся,
Яе рука мяне сарвець,
На грудзях шпілячкай прыткнець,
А я у сэрца ёй уп'юся.

## TRAFIKA.

Прада мной таблічка
Вісіць невялічка
І крывы напісак
Із чырвоных рысак:
„Trafika“.
Тут дзяўчынка
Як малінка;
Вочы чорны,
Як вуглінка...
Прытулілася ў ражок
Міла й пекна, як бажок.
Вочы чорны,
Як вуглінка...
Прытулілася ў ражок
Міла і пекна, як бажок.
Вочы чорны,
Вы палючы,
І харошы
І магучы...
Як люблю я вас...
Як баюся вас...
Знаць ня ў добры час
Я убачыў вас...

## СЛАВАЧЦЫ.

Пакіну я Цябе нязнанай
Над кнігай Зэйера сьвятою,
А сам паеду ў сэрцу з ранай
І Ты мне будзеш век нязнанай...
Балей ня ўбачуся з Табою...

І толькі сэрца будзе помніць
Твой сьнежны твар і мілы зрок;
Яно Цябе мне часта ўспомніць,
Твой мілы зрок яно прыпомніць...
За дзень, за месяц і за рок...

* * *

Ваконны заслоны
Зрухнуліся ў бокі
І дзіўныя тоны
У хвалдах заслоны,
Як водгук далёкі
Зайгралі жалосна.
І міла гасподу
Запоўнілі пахам,
Ды пахам з усходу,
На ўсходнюю моду,
З нястрыманым жахам...
Парвалі так злосна.
А струны спаміну
Угнулісь ад хвалі:
І спомніў дзяўчыну
На ўсходняй аддалі...
І стала нязносна.
Нязносна ў гасподзе,
Нязносна у ночы,
Ах, мілы усходзе,
Забудзь аб гасподзе
Ня вей мне у вочы...
Ня муч бязлітосна.

## РОСПАЧ.

Разьдзяры мне бура
Грудзі маладыя
І завый панура,
Як васеньня бура
На Усе Сьвятыя.

Вырві мне з карэньнем
Сэрца маладое
І паконч з цярпеньнем,
Вырваўшы з карэньнем
Усё балюча-злое.

Занясі на полі,
На зялень каберца,
Дзе ня быў след волі,
Вось на гэты полі
Нясі маё сэрца.

Гэй, завыйце буры,
Пад вакном сталіцы
І рвецэ пануры
Абраз чорнай буры...
На роднай зямліцы.

## Зямля Сялянству бяз выкупу!

# Зьмітрачыхіна Куцьця.

...Зьмітрачыха перад куцьцёй ня бегала, так як іншыя багацейшыя суседкі ейныя, не клапаціліся аб дванаццацёх патравах, якія па абычаю павінны былі-б зьмясьціцца на стале перад адумысна пасьціўшаю гэтым днём сямейкаю. Каб жа-ж пасьціць толькі гэтым днём прышлося! Зьмітракова даўно мужа ня мела: як пашоў у салдаты дык і сьлед прастыў.

Чацьвёра дзетак; заработку ніякага; ні гароду свайго, ні жывёлы. Зьмітрачыха жыла на ласкавым хлебе дык і пост быў — кажу я — ня толькі ў дзень куцьці.

Яна села адвечаркам пры вакне, ды трымаючы меншую Хадоську на каленках, пазірала сумна праз вакно. Трох іншых тут-жа прымасьціўшыся—памагалі матцы прыслухавацца да павольнага хістаньня галінак бязлістае яблынькі і рабіны, ды дзівіцца высокай сьнежнай гурбе перад самым вакном.

Наўпроці бачылі яны праз сваё ваконца аграмадную хату Васіля — мужыка багатага. Там ужо цяплілася лямпа і відаць было як зьбіраліся Васілёвы за стол за „дванаццаць патраў“.

— Мамка, я падбягу зірну, што ў іх на куцьцю будуць есьці—адазваўся старшы.

— І я, — крыкнуў другі.

Трэці шустрэйшы нічога ня кажучу накінуў на сябе нейкую хламіду і першым выбег за дзьверы, за ім другія.

Матка не затрымлівала іх.

— Прыходзьце назад хутчэй, будзем і мы куцьцю пачынаць!—усьлед прагаманіла ўздыхнуўшы. Мела кацялок згатаванай кашы і жбанок сахарынай салоджанай вады.

Ні было чым жывіць дзяцей; цяжка было з адзежай—былі амальшто голыя.

— Прыняў-бы іх Божанька Сьвяты, каб ня мучыліся—стагнала яна ўсьлед.

А яны тэй самай парой ужо перабеглі гурбу, пераскочылі праз пералаз і ўчапіліся за падваконьнік Васілёвага вакна.

Шыбы асабліва знізу былі парысаваны рознымі ўзорамі-малюнкамі „дзядзькі-Мароза“.

Прайшла мінута і другая пакуль яны адхукалі і зьністожылі частку рысункаў і тады ўжо маглі бачыць сваімі ўласнымі вачыма стол з пасеўшымі навакол Васілёвымі. Есьці яшчэ не пачыналі.

Патравы, смачна прыладжаныя, манілі да сябе вочы і думкі ўсіх.

Васілёвы мусіць пасьцілі цэлы дзень, дык ува ўсіх блішчэлі вочы і рукі канвульсыўна цягнуліся да лыжак.

Зьмітраковы глыталі сьлінькі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Стары і паважны Васіль увайшоў у хату, скінуў кажух, памыўся, і падышоў да столу: быў у белай, вышыванай прыгожа, кашулі, падпіразаны рамянём, у добрых портках і ў добрых шмараваных гусіным шмальцам ботах.

Пасьля цэрэмоніяў, патрэбных дзеля гэтага сьвятога вечара, пачалі Васілёвы есьці.

Зьмітраковым здалося галоснае мляcканьне і чмяканьне... разгарэўся апэтыт. Інстыктыўна глянулі на вакно свaей хаты—было там цёмна. Нават лямпа ня была запалена.

Васілёвы елі, чуваць была гаворка і сьмех. Сам Васіль быў задуманы і ціха абіраў нейкую хвастатую рыбіну. Раптам ён як-бы што важнае ўспомніў, ня выпушчаючы з рукі ядоміны падняўся з-за столу, падыйшоў да вакна таго самага, праз якое блішчэлі Зьмітраковы мальцы. Іх ён ня ўбачыў.

Васіль важна стукнуў тры разы ў шыбіну рукой і галасна прагаманіў:

— Мароз, Мароз хадзі куцьцю есьці!

Зрабіўшы гэтак ён вярнуўся на сваё мейсца.

— Ледзь не забыўся... стары гэта звычай звацъ Мароз на куцьцю—казаў ён і пачаў абіраць рыбіну.

Раптам у сянёх шмат ног затопала, абтрасаючы сьнег і ўраз-жа шмат пар рук зашоргала па дзьвярох, шукаючы ў пацёмках клямкі.

Васіліха была бліжэй усіх ад дзьвярэй — падыйшла і адчыніла...

Зьмітраковы басякі разам уваліліся ў хату. Зьдзівіліся Васілёвы.

— Адкуль вы ўзяліся? — пытаўся зморшчаны меншы сын Васіля.

— Ваш татка клікаў толькі што нас—адказалі прыйшоўшыя.

Усе зпачуча зіркнулі па сабе.

— Калі? — дзівіўся сам Васіль.

— Праз вакно...

— Мы дзядзенька глядзелі праз шыбіну, а вы нам пастукалі...

— А, а-а! Во як. Дзіўна выйшла. — Ківаючы галавой гаманіў Васіль.

Васілёвы былі людзьмі добрымі: хутка Зьмітраковы апынуліся за сталом і пачалі прагавіта спажываць куцьцю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зьмітрачыха ня магла дачакацца дзяцей з надворку, дык абвярцелася хусткай паверх

# У нашай гміне.

У гміне сваей я ўжо мусіць ня быў гады чатыры. Ня быў не ад таго, што ня люблю яе, а проста ня меў ніякой патрэбы. Ды і ў каго цяпер можа быць патрэба ў гміне бываць? Даўней хоць падаткі трэба было ў гміну насіць два разы ў год. Ну, а хто цяпер адважыцца ў гміну падаткі нясьці? Папробавай толькі, дык пачуеш, што сэквэстратар табе на гэта скажыць! Ды і на што тады і сэквэстратар нам патрэбен быў-бы, каб мы самі падаткі насілі. Для нашай-жа выгады яго нам з Польшчы прыслалі.

Праўда, даўней яшчэ ў гміну хадзілі войта выбіраць. Ну а цяпер чаго пойдзеш, калі без цябе ня толькі выбяруць, але і на карак табе пасадзяць. Трымай толькі! Хадзілі яшчэ даўней у гміну на жалабу да войта, калі часамі сусед табе на нагу наступіў, бо пастарункаў тады пры гміне ня было і колькі гэта трэба было грошай і часу змарнаваць, каб праўды дабіцца ў гміне! А цяпер зайшоў толькі на пастарунак, паказаў пальцам: вось ён! — дык праз пару днёў твой непрыяцель аж на Лукішках апынецца.

Дык чаго дарма ў гміну хадзіць, калі ўсе выгады на месцу. А чаго я чатыры годы таму назад у гміне быў? — Раду гмінную тады выбіралі, дык я выбаршчыкам быў. Але цяпер ужо болей і гэта работа таксама без нас робіцца.

А сягоньня я трапіў у гміну зусім выпадкова. Меў пільную справу да свайго свата, а ісьці да яго як раз трэба было каля гміны. Зайшоў у гміну пагрэцца. Трэба ведаць, што наша гміна адна пры дарозе стаіць. Бліжэй на поўвярсты ніякай хаты няма ад яе. І кожны хто зьмерзьніць, у гміну грэцца заходзіцца. Ды і пагрэцца болей няма дзе. Гміна наша старая ўжо. Як нарочна, каб дзе людзям у мароз пагрэцца было, вялікі, вялікі пакой ёсьць, зборнай называецца. Чалавек сотні са дзьве ў ім тоўпілася. Лаўкі каля сьцяны шырокія і печ заўсёды цёплая, цёплая. Сядзі толькі ды грэйся.

Вось якраз і прыцягнула мяне гэта печ у гміну. Плечы пагрэць захацелася. Узыйшоў я на ганак. Адчыніў другія дзьверы ў сярэдзіну. Стаў ды вочы рукавом праціраю. Ці ў сваю гміну я гэта папаў?—думаю. Даўней проста як з ганку дык адразу ў зборню. А цяпер ні тэй печы ні зборні. Толькі маленькія сенцы і тыя без вакна. Увесь сьвет што з дзьвярэй. А можа, думаю, зборня з печай далей перасуналася? Толькі я хацеў адчыніць дзьверы і праканацца ці ёсьць печ, аж бачу на дзьверах напісана папольску: „Ужонд гміны. Прыймо інтэрасантаў: у панядзелак, сераду і суботу“. Тут я і на печ забыўся. Што за ліха, думаю. У любое міністэрства можна хадзіць штодня, а тут у сваю гміну толькі тры разы на тыдзень. Вось дык штука! А можа, разважаю я сам сабой, з тэй прычыны, што цяпер усюды рэдукцыя і ашчаднасьць, на ўсю гміну толькі адзін войт застаўся, які і канцалярыяй правіць і інтарасантаў прымаець? Дык дзе яму аднаму ўправіцца.

А і добра, думаю, калі так: усё-ж падаткаў меней плаціць трэба. Дай пагляджу. Адчыніў ціханька дзьверы, бачу тая самая наша зборня, толькі выгляд ужо зусім іншы маець. Сьцены белыя, белыя, а па сьцянах абразы нейкія. Ад печы старой і сьледу няма. Новая жалезная стаіць. Высокая, высокая, аж усталяваньне ўпіраецца. Пасярод пакою чатыры сталы стаяць, а за кожным па чалавеку сядзіць. Адзін пазногці ножніцамі стрыжэць, другі папяроску курыць, а трэці з чацьвертым сьмяецца. А што-ж цяпер у даўнейшай канцэлярыі? — зацікавіла мяне паглядзець. Справа зборні ў канцэлярыю даўней дзьверы былі. Зірк я туды, а на дзьверах напісана: „габінэт вуйта“, надта, думаю сабе, войт шырокі ў нас. Даўней у гэтым пакою суды і сходы адбываліся, а цяпер толькі на габінэт вуйту хапала. Глянуў я праз адчыненыя дзьверы ў габінэт гэты. Вуйта хацеў пабачаць, які ён хоць на пагляд, аж бачу пуста няма нікога. Якраз я ў дзень той трапіў калі інтарасанты не прыймаюцца. Аўторак быў.

— А табе што трэба? — пытаецца ў мяне той, што пазногці ножніцамі стрыг.

— Так, пагрэцца — адказываю, не казаць-жа яму, што на цябе паглядзець прышоў!

— Тут ня кухня, а канцалярыя. Проша выйсьць.

Раз кажаць выйсьці, дык трэба выхадзіць, не чакаць-жа пакуль ён табе ножніцамі па запатылку дасьць. Вышаў я ізноў у сенцы. Якраз з сторажам спаткаўся. Гадоў ужо з дваццаць ён у нас старажуець у гміне. Лявон завецца.

— На што-ж ты, дзядзька, зборню пад канцэлярыю аддаў — кажу яму: Гэта-ж цяпер і табе старому няма дзе пагрэцца.

Стораж махнуў рукой і ўздыхнуў. Відаць, што і яму так сама было шкода старой печы, можа нават болей як мне.

— Шкода некаму стала, што чалавек наш зайдзе пагрэцца. Цесна ім усюды за намі. Бачаш куды мяне выкінулі — паказаў стораж на зэдлік пры дзьверах на якім ляжаў скручаны сяньнік.

— Ну а як войт чалавек? — стараючыся разагнаць у старога сумны настрой, пераманіў я гутарку.

— Добры як сьпіць. Тады сьмела можна каля яго хадзіць.

Нашую гутарку са сторажам перарваў нейчы жаноцкі голас, які з кватэры вуйта крычаў:

— Стораж, стораж!

— І дыхнуць не даюць — уздыхнуў стораж і вышаў.

Аднаму ў сенцах мне ня было чаго рабіць. Я вышаў на ганак. Там сядзела нейкая кабета ў кажуху, схаваўшы галаву ў хустку.

— Ці ўжо ёсьць дванацатая гадзіна?—запыталася яна ў мяне чуць паказываючы свой твар з пад хусткі.

— Яшчэ толькі дзесяць.

Кабета ўздыхнула. Я прысеў да яе на лаўку.

— А, цётка, у якой справе пытаюся ў кабеты.

— На суд... каторы раз ужо.

Я паглядзеў на кабету. Твару было менш відаць з пад хусткі. На сколькі я мог разглезіць, кабета была ўжо не маладая. На твары ляжалі сьляды перажытага гора.

— Цяперэа, цётка, судоў у гміне няма, хто тут вас судзіць будзіць? — пытаюся я ў кабеты.

— У справе дзяцей мяне каторы раз трэбуюць. Сягоньня ізноў суд будзець.

Цяпер я зразумеў, што гэта кабета называець „судом“. Яе трэбуець гмінная школьная рада. І пакуль я сабраўся сказаць да цёткі яшчэ што небудзь, яна пачала адчыняць мне сваю набалелую душу.

— Удавая — казала яна — шосты год як дзеда пахавала, з пяцёра малымі ён мяне кінаў. Самаму большаму толькі цяпер яшчэ трынаццаты гадок пашоў. Дык вось, усім пяці ў школу прыказываюць каб хадзілі. Ну як-жа мне іх усіх выправіць! Гэта-ж ня дома, а дзьве вярсты трэба кожны дзень хадзіць у школу. Босых і голых іх-жа ня выправіш. Трэба адзець, абуць. А адкуль я вазьму што, калі за падаткі карову апісалі? Вось на восені так сама на суд сюды мяне звалі. Двух меншых звольнілі, а траім большым канечня хадзіць трэба. Няхайбы сабе хадзілі. Ведама, чалавеку грамата ня шкодзіць. Але дзе-ж можна каб кожан дзень у школе быць, і пагода ўсякая бываець ды і прастудзіцца, захварэіць каторы... Да студні ваду бегаюць піць!... Найгоры мне большага цяжка ў школу выпраўляць што-дня. Дзе-ж мне бабскай справай заўсім управіцца. Ён-бы хоць скаціны даглядзеў-бы, воз другі сукоў якіх нябудзь прывёз. Анагдысь на млын з ім езьдзіла. Усё-ж лягчэй. А ім гэта зусім не ў галаве. „Мусіць хадзіць!“ Толькі адно і знаюць. А дзень не пашоў — да кары.

Кабета ўздыхнула і змоўкла.

У гэтай справе я, зразумела, нічога ня мог ей парадзіць. Аставалася толькі выказаць сваё спачуваньне беднай кабеціне.

На ганак к нам узыйшлі двое мужчын.

— Войт дома?—запытаўся ў мяне адзін з іх.

— Ня ведаю. Сягоньня аўторак. Напісана, што не прымаець. А на што вам? — зацікавіла мяне запытацца.

— Яшчэ летам—пачаў ён мне апавядаць— на мост дошкі пілавалі, а грошы і да Каляд спагнаць аніяк ня можам. Калі ня прыдзешь— усё грошы няма. Раз дык я ўжо і нясьцярпеў. Чаму гэта — кажу — у нас заўсёды грошы павінны быць. Калі мы толькі ўпару не заплацім, дык з нас і процапты і якзэкуцыйныя, а як нам трэба — дык ні процантаў ні сумы не аддаюць. Дык войт як схапіў мяне за каўнер, ды калі турнуў каленам вон з канцэлярыі, дык я чуць лоб сабе не разьбіў. Многа хто казаў каб я заяву на вуйта за гэта напісаў.

— Але так і не напісаў! — Зрабіў я яму закід.

— Ды так неяк і засталося. Цяпер-жа і заяву напісаць дык больш пяці злотых трэба заплаціць — нібы апраўдываючы сябе казаў ён.— А там невядома што і было-б?

— Калі мы будзем маўчаць як нас выкідываюць за каўнер, то вядома, што войт яшчэ і па карку накладзець. — Вось што можа быць толькі — з дакорам адказаў я.

На ганак увайшў адзін мой добра знаёмы. Павіталіся.

— Ці не на суд можа? — пытаюся.

— На суд. Хай яго... Каторы раз ужо.

Мне стала цікава запытацца ў яго як адбываецца гэты суд?

— Суд як за праўды акружны суд—расказываў ён мне. Застэмпца вуйта, або сам вуйт з Антонам Арэхам судзі, а кіроўнік школьны прадседацель і пракурор разам. Толькі адных адвакатаў няма. Усяго ў гміне ёсьць больш 20 школь. А з кожнай школы наменей сабярэцца па 10 чалавек бацькоў дзіцяці, каторага з тэй ці іншай прычыны ня быў дзень ці два ў школе. І вось сабярэцца нас столькі, што некаторым на дварэ трэба стаяць. І як пачнецца суд ад паўдня дык да паўночы ня кончыцца. А тады па цемнаце па балоце ідзі дамой калі сьмерці не баішся. Добра яшчэ як каму блізка, а ёсьць-жа такія, што за вёрст пятнаццаць прыходзяць.

— Ну а якія-ж прыгавары суда бываюць?

— Ці сядзець, ці грашмі плаці. Як там інспэктару захочацца.

Дакей на ганку гміны мне несядзелася. Ды папраўдзе сказаць і сядзець ужо ня было на чым. Я разьвітаўся з сваім знаёмцам і пашоў.

А на спатканьне мне мне дарогай да гміны ішлі і ехалі мужчыны і жанчыны, старыя і маладыя і ўсе яны пасьпешалі на суд.

*Янка Башкір.*

# Аб нашай мове.

III.

Цяпер ужо зусім устаноўлена, што на ўсей этнаграфічнай Беларусі пануець адна беларуская мова. Калі і ёсьць якая-колячы спрэчка аб нашай мове, то гэта датычыць крайніх узьмежкаў Беларусі. Беларуская мова ад Горадні і Беластоку аж да Бранску — адна мова, адны ў ей словы і звароты, бо яе стварыў адзін народ, што мае сваю асобную і рэзка выдзеленую душу, — кажа беларускі географ А. Смоліч. Як усякая іншая мова, так і беларуская мова, мае розныя вымовы. Так у паўночна-ўсходняй Беларусі ёсьць цокаючая гаворка, дзе кажуць: рэцка (зам. рэчка), цужы (чужы), цалавек (чалавек) — Бельскі, Горэцкі, Вяліскі паветы з часткамі суседніх. У Смаленшчыне, Магілеўшчыне і Чарнігаўшчыне так ужо ня цокаюць, але мяккі гук застаецца. І тут кажуць беряг (зам бераг), ряка (зам. рока), старяцца (зам. старацца). Там-жа вымаўляюць словы на ы. (Мыладзік — маладзік, зылозы — залозы, пыгамані — пагамані), ды ўжываюць там-сям даволі вялікарускіх слоў (вор, нет, дзелаць). Як бачым, у абедзьвюх гэтых гаворках сустракаецца шмат велікарускіх слоў. Гэта тлумачыцца тым, што яны найдаўжэй, былі пад уплывамі вялікарускай мовы. Проф. Карскі, мяжою моцных уплываў маскоўшчыны на беларускую мову лічыць лінію, што ідзе праз Себяж, Віцебск, Мсьціслаў, Клімавічы і Навазыбкаў. На заход ад гэтай мяжы пачынаецца чыстая беларуская мова прынятая ў сучаснай літэратуры беларускай. Гэтая мова займае сабою чуць ня ўсю сярэднюю і заходнюю Беларусь (Менск, Могілеў, Полацк, Слуцк, Вільня). На заходзе Беларусі, у паветах: Аўгустоўскім, Сакольскім і Белостоцкім, а таксама на заход ад Вільні, ужо чуюцца меншыя ці большыя ўплывы польскае мовы. На поўдзэн ад лініі Горадня—Слонім — Гомель ёсьць поўднёвая беларуская гаворка, так званых беларусаў-сакуноў, якія кажуць: загамоніўся, рупіўся, хаваўся. Гэтыя асобнасьці ўжываюцца часам і ў літэратурнай беларускай мове. На гаворку Беларусаў Пінскаго, Кобрынскаго пав. якіх называць пінчукамі, апрача сваіх правінцыянальных асаблівасьцёй, вялікі ўплыў робіць украінская мова, хаця-ж Піншчына з прадвеку была часткаю Беларусі,

(Далей будзе). *К. М—ч.*

дзіравага кажуха і толькі ступнула колькі крокаў к дзьверам, як пачула, што ў сені нехта ўвайшоў. Не пасьпела яна яшчэ ўзяцца за клямку, як той „нехта“ адчыніў дзьверы ў хату і хрыпата запытаўся:

— Ці тут жыве Зьмітракова?

— Я сама...

— А, жывеш, здарова; палі лямпу!...

Яна абслупела... Зьдзівілася... Пазнала мужа... Вярнуўся-ткі... Кінулася са плачом абымаць яго. Даўней праклінала яго, а цяпер... гэтак, ацаніла яна цяпер ягоную пару мазолістых рук. Хапіла, пацалавала яго. Настрой адразу зьмяніўся: аджыла памаладзела...

— Дзе-ж дзеці, — запытаў Зьмітрок, абтрасаючы сьвітку са сьнегу.

— Пабеглі зірнуць на куцьцю Васіля, але пры вакне там нешта іх ня відаць.

— Мусіць у Васіля?

— Мусіць у Васіля.

— Ну дык схадзі за імі.

— Пойдзем разам: Васілёвы будуць рады!...

Сабраліся і пашлі.

Васілёвы і запраўды рады спаткалі Зьмітрака з жонкай і далучылі іх да агульнай кумпаніі, пасадзіўшы амаль-што сільлю за стол.

Куцьця, ўжо праўдзіва хрысьціянская, працягнулася далёка пад поўнач.

Кацялок з кашай і жбанок вады, засаложджанай сахарынам, астаўся і паслужыў Зьмітраковым за сьняданьне на першы дзень Каляд.

*А. Васілеўскі.*

# Да перавароту ў Літве.

### Міністар вайны аб пераварoце.

Рыскія газэты падаюць зьмест гутаркі літоўскага ваеннага міністра з карэспандэнтам „Сегодня“. Міністар палк. Маркас заявіў, што палітыка папярэдняга ўраду вяла Літву на згубу. На вачах усіх жыхараў Літвы камуністыя арганізаваліся, зброіліся і аткрыта гаварылі, што забяруць уладу ў свае рукі. Тымчасам урад глядзеў на гэта праз пальцы і ўспакаіваў насяленьне галаслоўнымі заявамі, што ўсё ідзе добра, для дзяржавы няма ніякой небясьпекі.

Бальшавіцкі пераварот на Літве быў-бы прычынай камплікацыі палажэньня бальтыцкіх дзяржаваў, што было-б на руку радам (саветам), якія мусяць ствараць факты, якія быццам гавораць аб сусьветнай рэвалюцыі. Усе грамадзяне Літвы, каторыя дзяржаўна думаюць з энтуз'язмам (захопленнасьцю) і радасьцю прывіталі пераварот.

Армія прыняла зьмены спакойна. Ня толькі нідзе не было праліву крыві, але не зарэгістравана найменшых нават выпадкаў паміж варужоннымі.

Пляны камуністых цяпер ужо папсуты і ня могуць яны мець надзеі на свой пераварот.

### Народнікі ў Літоўскім Сойме.

Народнікі і сацыял-дэмакраты, якія да перавароту трымалі ў сваіх руках уладу, заявілі што будуць зьяўляцца на паседжаньні Сойму. Сваю тактыку гэтыя партыі выкажуць толькі пасьля таго як будзе ім вядома дэклярацыя ўраду. Аднак гэтыя партыі будуць у апазыцыі да ўраду.

### Дымісыя губэрнатара Мэмлю.

Губэрнатар Мэмлю (пад Літвой) падаўся ў адстаўку. Гэтая вестка яшчэ не праверана.

### Што кажуць Віленскія Літоўцы.

Прадстаўнік усходняй агенцыі зьвярнуўся да літоўскіх дзеячаў у Вільні з запытаньнем, як ацэньваюць палажэньне ў Літве.

Др. Д. Альсэйко — старшыня Віленскага Літоўскага Камітэту заявіў:

Ковенскія выпадкі на сколькі неўспаўдзеўкі ўзьніклі, на столькі шыбка былі зліквідаваны. Зрабілася гэта так бяссумліву дзякуючы прэзыдэнту Грыніюсу, які маючы даволі сілы, каб асадзіць пераварот, усанкцыянаваў (прызнаў) яго, хочучы недапусьціць да ўнутраняй барацьбы і да магчымага ўмешаньня ў справу вонкавых дзейнікаў. Няможа быць ніякай гутаркі, каб рашэньне (пастанова) прэзыдэнта была чым небудзь вымушана. Што да цяперашніх выпадкаў трэба адзначыць тое, што новы ўрад ня мае большасьці ў Сойме; з гэтага вынікала-б што хочучы ўпраўляць, урад павінен распусьціць Сойм, але гэта зьяўляецца мала праўдападобным (мала верным).

Народнікі, а іх ёсьць 22 на 85 паслоў будуць нэўтральнымі праз пэўны час і гэтым дадуць магчымасьць істнаваць ураду праф. Вальдэмарса, хто ведае, ці з часам ня войдуць у коаліцыю.

На сколькі можна зар'ентавацца, сфэры хрысьціянскай дэмакрацыі ў Літве бяруць пад увагу яшчэ трэцюю канцэпцыю, а іменна падзел сярод партыі народнікаў, часьць якіх пойдзе за ўрадам. Ня думаю, каб гэтае дапушчэньне было рэальным. Калі ўтрымаецца Сойм, то дзеля тактычнай сілы, якую будуць мець народнікі адносна да ўраду, зьмены курсу палітыкі на горшае ня трэба спадзявацца.

# З Польшчы.

### З СОЙМУ.

Праўная Рада падала нова-выраблены прэсавы дэкрэт. Апошні мае быць унесены да Сойму перад 1-м студзеня. Паводле гэтага дэкрэту суды за справы прасовыя маюць быць прысьпешанымі.

### Навабранцы з 6 клясовай асьветай.

Ваенныя ўлады выясьняюць, што на аснове новага распараджэньня, якое за некалькі дзён будзе абавязваць, навабранцы, што акончылі 6 кляс сярэдняй школы, таксама будуць скіроўвацца да ваен. школаў падхарунжых рэзэрвы, але толькі пехаты. Ня будуць яны адбываць скарочанай службы, а нармальную, і астануцца падпаручнікамі рэзэрвы толькі ў выпадку вайны. Затое навабранцы, якія акончылі сярэднюю школу будуць адбываць скарочаную вайсковую службу ($1^1/_2$ года) і могуць быць прыдзелены ня толькі да школаў падхарунжых пехаты, але і да іншых спэцыяльных аружжаў.

### Новыя распараджэньне.

У Дн. Уст. № 121, ад 15.XII.26 абвешчана распараджэньне Прэзыдэнта аб пабіраньні ў 1927 г. надзвычайнага 10 процантовага падатку да безпасярэдніх падаткаў, пасярэдніх падаткаў, штэмплёвых аплат, спадковага падатку і ад дарства.

У Дн. Уст. № 122 абвешчана распараджэньне аб конвэрсыі (замене) дзяржаўных пазык з 1918 — 1920 г.

### Палявыя суды.

Міністэрства ўнутраных спраў выдана распараджэньне, на аснове якога прадоўжаны яшчэ на 6 месяцаў тэрмін істнаваньня палявых (доразьных) судоў. Гэтыя суды ў працягу 7 гадоў існаваньня Польшчы ўжо шмат перавялі на той сьвет Беларусаў. Цяперашні рэакцыйны польскі ўрад, відаць, хоча па генэральску расправуляцца з Беларусамі.

### Калі хочаш красьці, дык на „Крэсы“.

Польская пазнанская газэта піша, што поласкія ўлады тых урадпікоў, якія абкрадваюць казну, пераносяць на „Крэсы“.

Адзін урадовец нарабіў шкоды дзяржаўнаму скарбу, выдаючы фальшывыя квіты за нібы купленае дрэва для апаляньня ўраду. Справа гэтая выйшла на верх і ўрадоўца звольнілі. Калі пачалі рабіць захады прад начальнікам ураду п. Урбанскім, каб звольненага ізной прыняць, дык Урбанскі сам падпісаў яму ліст, у каторым паведамляе звольненага, што на службу ў пазнанскім вокругу прыняць яго ня можа, але калі ён зложа заяву, каб прынялі ў ўрад на Віленшчыне, то п. Урбанскі ня выдасьць за што яго звольнілі. Або інакш: тут табе красьці ня можна, а ў віленскім вокругу крадзі сабе на зламаньне галавы, урад будзе маўчаць.

Вось бачым як Палякі любяць нашыя землі, прысылаюць нам самых зладзеяў.

Тая самая газэта піша, што чатыры месяцы таму назад была гучная справа аб „надужыцях“ у дырэкцыі почты і тэлеграфу. Камісыя ад дырэкцыі зрабіла дазнаньне і сьцьвярдзіла, што гэтыя надужыцьці былі напэўна і што займаўся імі павадыр камісыі дысцыплінарнай п. Крыгіч. Апошняга перавялі ў Вільню і тады ўжо сталі рабіць дысцыплінарныя дасьледы. П. Крыгіч займаіць сабе і далей пасаду заступніка начальніка паштовага аддзелу ў акруговай дырэкцыі Пошты і Тэлеграфу ў Вільні.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Пратэст проці гвалту Мусаліняга.

Сёлетні нацыянальны кангрэс арганізаваных групаў нацыянальных меншасьцяў у Эўропе на паседжэньні ў жніўні м-цы с. г. ў Жэнэве выбраў камісыю для прыгатаваньня трэцяга нацыянальнага кангрэсу меншасьцяў. Да сяброў гэтай камісыі належаць: д-р Вільфан з Трыесту (у Італіі), праф. Маспонс і Англясэль з Барсэлёны, Лявон Моцкін з Парыжу, пасол д-р Шыман з Рыгі, Ст. Серакоўскі — з Усходняй Прусыі, пас. Гэза-Шюллё з Прагі. Старшыня камісыі, славенскі пасол да італьянскага парлямэнту, д-р Язэп Вільфан быў 10 лістапада затрыманы ў Рыме і пасаджаны ў вастрог.

Паслы нацыянальных меншасьцяў у Польскім Сойме, так-сама як і прадстаўнікі меншасьцяў другіх краёў Эўропы, злажылі протэст італьянскаму ўраду. З беларускіх паслоў запратэставалі Ярэміч і Тарашкевіч, з жыдоўскіх Гартгляс, з нямецкіх Піш, з украінскіх Казіцкі, з расейс. Сярэбранікаў. Паслы выслалі тэлеграму да прэзыдэнта італьянскага ўраду. У гэтым пратэсьце кладзецца націск на тыя меры барацьбы, якіх хватаецца ўрад італьянскі з народам, які імкнецца да свайго вызваленьня.

Каталёнцы прыслалі ў камісыю тэлеграму такога зьместу: каталёнская дэлегацыя пратэстуе проці несумленнага арыштаваньня прэзыдэнта Вільфана.

Сябра камісыі Паўлюк Шыман з Рыгі выдаў эдозву, у якой выступае у абароне арыштаванага. З пратэстамі адазвалася і шмат другіх арганізаваных нацыянальных групаў Эўропы.

### Палітыка Англіі.

Апошнія пастановы Лігі Народаў зрабілі вялікія перамены ў адносінах паміж эўрапэйскімі дзяржавамі. Англія хоча адцягнуць Нямеччыну ад СССР і зрабіць саюз чатырох вялікіх дзяржаваў: з сабой злучае Нямеччыну, Францыю і Італію. З другога боку СССР хоча заключыць саюз з Нямеччынай і Італіяй. Англія ня можа дапусьціць да гэтага другога саюзу, каб заключыць першы.

У сувязі з гэтым лёнданская газэта „Observer“ напісала артыкул, у якім кажа, што над Нямеччынай ваеннага кантролю зусім ня будзе. Цяпер кантроль залежыць толькі ад Англіі, якая, каб дагадзіць Нямеччыне, ніякага ваеннага кантролю ня будзе рабіць. Апрача таго, газэта піша, што Надрэнія — нямецкая правінцыя, якую захапіла Францыя — будзе аддана Немцам назад; Нямеччына таксама можа быць павадыром гаспадарчай канфэрэнцыі і будзе мець свабоду для стварэньня гаспадарчых „Злучаных Штатаў Эўропы“. Англія яшчэ прапануе Немцам стварыць саюз трох: прылучыць да сябе Нямеччыну, і Францыю. Гэты саюз мог-бы аб усім рашаць у Лізе Народаў і наагул у сьвеце.

З ўсяго гэтага Англія хоча, каб Немцы забыліся аб праігранай апошняй вайне, не шукаваліся да вайны з Францыяй, а стараліся ўтрымаць супакой у Эўропе. Гэта значыць, што Немцы павінны перарваць добрыя адносіны з радамі (саветамі), і быць у згодзе з Англіяй.

Газэта „Observer“ далей зварачваецца і да Італіі і ганіць палітыку дыктатара Мусаліняга; нападае на Італію за тое, што яе войска на францускай граніцы рабіла дэманстрацыю. Асьцерагае Мусаліняга перад тым, што яго можа спаткаць такая самая доля, якая спаткала Вільгельма II і запрашае Італію у саюз чатырох: Англіі, Францыі, Нямеччыны і Італіі.

Каб лепш заахвоціць Нямеччыну і Італію да заключэньня такога саюзу, Англія прапануе новы падзел афрыканскіх калёніяў, маючы на мэце аддаць Нямеччыне і Італіі частку гэтых калёніяў.

З усяго гэтага бачым, што Англія вельмі хоча саюзу з Нямеччынай проці Масквы. Калі-б дайшло да такога саюзу, тады Масква асталася-б зусім адна, усе большыя эўропэйскія дзяржавы былі-б проці СССР. Такі саюз меў-бы на мэце недапусьціць да новае вайны, за тое усялякія споры паміж дзяржавамі рашалі-б: Нямеччына, Англія і Францыя. Але зараз-жа пасьля заключэньня такога саюзу, Немцы паднялі-б пытаньне аб іх усходніх граніцах. Нямеччына не згаджаецца на цяперашнія граніцы з Польшчаю і захоча мірнай дарогай зьмяніць гэтыя граніцы. Каб забраць сабе назад Верхнюю Сылезыю, Нямеччына мае вельмі добры аргумэнт у апошніх выбарах, якія далі нямецкую большасьць у Верхняй Сылезыі.

### З Б. С. С. Р.

Прэзыдыўм Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ўчыніў новы крок у кірунку далейшага аб'яднаньня беларускіх зямель. На паседжаньні 6-га г. сьнежня пастаноўлена:

„Далучыць да Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі з складу Гомельскае губ. паветы Рэчыцкі і Гомельскі ў іх сучасных адміністрацыйных межах разам з местам Гомелем“.

Перадача новых абшараў БСРР мусіць быць праведзена ў жыцьцё ў працягу аднаго месяца.

### „Вэрсальскі трактат страціў павагу“.

Вядомы нямецкі прамысловец, які вядзе прапаганду збліжэньня француска-нямецкага піша ў газ. венскай „Neue Freie Presse“:

Посьле стварэньня гаспадарскага саюзу нямецка-францускага Вэрсальскі трактат ня мае ніякага значэньня. Зрабіўшы гаспадарскі саюз, каторы будзе ўзрастаць і пашырацца, Францыя і Нямеччына ня могуць далей аставацца ў палітычнай няўзгодзе. Ваенны кантроль ня мае пэўнай мэты, бо калі вясьці вайсковы кантроль дык трэба прызнаць Немцаў за здраднікаў, а здраднікаў ніхто не кантралюе. Аўтар трымаецца таго пагляду, каб умоцніць француска-нямецкі саюз, а нават мець адзін супольны генэральны штаб. Каб сталася так, дык нямецкая армія падлегала-б францускай інспэкцыі і наадварот француская — нямецкай, што не ганьбіла-бы ні адну ні другую дзяржаву.

### З Амэрыкі.

З Вашынгтона пішуць: павадыр прадстаўнікоў марской палаты Бутлер (Butler) заявіў, што Амэрыцы трэба павялічыць марскую сілу бо займае яна паводле гэтай сілы толькі трэцяе мейсца ў сьвеце.

### Зямлятрасеньне ў Альбаніі.

З Рыму павядамляюць, што італьянскі ўрад атрымаў ад свайго пасольства павядамленьне аб зямлятрасеньні ў Дураццо (Албанія). У гэтым месьце зьнішчана шмат дамоў і каля тысячу душ ня маюць дзе прыхінуцца. Мусоліні распарадзіўся выслаць на месца катастрофы помач пажывеньнем, мае таксама ўрад на мэце зрабіць прытулак для 600 бяздомных і разам кухні. Італьянскі ўрад, аказваючы гэтую помач, хоча паказаць сваю прыхільнасьць да Албаніі пасьля нядаўна зробленнага пакту.

